Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць з верасня 1995 года

# Газета Уладзіміра Кудзінава

СУБОТА 6 красавіка 1996 года № 27 (56)

Цана па падпісцы – 444 руб., цана ў розніцу – 700 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

Інфармацыйны выпуск падрыхтавалі: В. ГАПЕЕЎ, М. РЫМАЧ, Л. РУЦІЧ.

## ДЫВІДЭНДЫ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПАЧАКАЦЬ

акцыянерам аб'яднання райсельгасхіміі. Нагадаем – у мінулым годзе аб'яднанне стала акцыянерным таварыствам адкрытага тыпу. Акцыі яго можна было набыць за прыватызацыйныя чэкі „Маёмасць". За гэтыя ж чэкі аб'яднанне па жаданню ўладальніка магло разлічыцца грашыма.

Год для аб'яднання (як, дарэчы, для большасці прадпрыемстваў раёна) склаўся няўдала. Падведзены на сходзе акцыянераў вынік быў сумным – прыбытку, частку якога можна было б выдаткаваць на дывідэнды, не атрымалася. Акцыянерам прапанавалася адно – пачакаць. Калі ж хто цярпенне згубіў і веры ў лепшае не мае, то – калі ласка – здавайце акцыі, атрымаеце назад іх кошт. Частку грашыма, частку – цукрам.

Толькі ці варта так рабіць? Адсутнасць прыбытку – не віна, а хутчэй бяда аб'яднання. Той, хто прадаў у мінулым годзе прыватызацыйныя чэкі аб'яднанню за грошы, мо, зараз і пасмейваецца з акцыянераў. Ды, як вядома, смяецца той, хто смяецца апошні.

## ЗАЎТРА – ВЯЛІКДЗЕНЬ

**па календары каталіцкай канфесіі**

**О, БОЖА, СПАСЕ НАШ**

*О, Божа, Спасе наш,*
*Ты міласць нам*
*пакаж,*
*З няволі вызваль*
*нас,*
*Збудзі Ты нас ужо*
*раз.*
*Ты вочы нам адкрый*
*І свету нам пашлі –*
*Ты праўду нам*
*пакаж,*
*О, Божа, Спасе наш!*

**Карусь КАГАНЕЦ.**

*ВІНШУЕМ УСІХ ХРЫСЦІЯН-КАТАЛІКОЎ З ВЯЛІКАДНЕМ. ХАЙ ЗАЎСЁДЫ РАДУЕ ВАС, ШАНОЎНЫЯ ВЕРНІКІ, ГЭТА НАЙВЯЛІКШАЕ ХРЫСЦІЯНСКАЕ СВЯТА ЎВАСКРЭСЕННЯ ХРЫСТОВА, НАТХНЯЕ НА ЛЮБОЎ І ДОБРЫЯ СПРАВЫ.*

*ХРЫСТОС УВАСКРЭС!*

*САПРАЎДЫ ЎВАСКРЭС!*

## РАБОЧЫЯ РАДАВАЛІСЯ ЎЧОРА. СЁННЯ СМУТКУЮЦЬ БЮДЖЭТНІКІ

Той вядомы сакавіцкі разлік з рабочымі па ўладнаму загаду зверху, які нагадваў перацягванне кароткай ірванай коўдры на шырокім ложку, як і прадказвалі многія, адгукнуўся сёння на медыках і настаўніках. Ужо праз колькі дзён пара будзе разлічвацца за сакавік, а медыкі і частка настаўнікаў не атрымалі заробленых грошай за люты.

Раённы бюджэт сённяшнюю колькасць гэтых спецыялістаў „не пацягне" – для выплаты зарплаты патрэбна падтрымка абласнога бюджэту. А той ківае на дзяржаўны. Што тычыцца апошняга, то ён, як вядома, толькі нядаўна прыняты. (Два месяцы ў гэтым годзе краіна працавала наогул без зацверджанага бюджэту!) І па меркаваннях асобных спецыялістаў, вельмі праблематычна, ці будзе ён выкананы.

І як сёння патрабаваць (а застаецца менавіта патрабаваць!) заробленых грошай урачам і медсёстрам? Забастоўку яны, як іншыя, аб'явіць не могуць. То і застануцца „крайнімі"?

## АЎТАІНСПЕКТАРАЎ ДАБАВІЛАСЯ. ГРАМАДСКІХ

Былі такія, грамадскія аўтаінспектары, і ў некалішнія, як прынята сёння гаварыць, добрыя старыя часы. Потым, падчас перабудовы, іх не стала, як і многага іншага.

Затое аніякая перабудова не ў стане была зменшыць колькасці парушэнняў правілаў дарожнага руху і, як вынік гэтага, дарожна-транспартных здарэнняў. І па сёння яны нярэдкія.

Таму рашэнне службы дзяржаўтаінспекцыі ўзмацніць кантроль за рухам транспарту і становішчам на нашых дарогах з дапамогай фарміраванняў грамадскіх аўтаінспектараў упаўне апраўданае. У нашым раёне ўжо падабрана да паўсотні чалавек, хто даў згоду добраахвотна выконваць у вольны ад працы час ці ў выхадныя дні функцыі грамадскага аўтаінспектара. Як нам паведаміў начальнік раённага ДАІ М. Д. Шрамук, гэта лічба з цягам часу будзе падвоена. І тады ў кожнай з зонаў раёна – Быценскай, Косаўскай і Целяханскай – змогуць працаваць не па аднаму, як гэта ёсць цяпер, а па два экіпажы дарожна-патрульнай службы.

Асобна хочацца сказаць аб падборы людзей у якасці грамадскіх аўтаінспектараў. Зразумела, што гэта ў асноўным вопытныя вадзіцелі або дзяржаўнага, або прыватнага транспарту. Канечне ж, дысцыплінаваныя і сумленныя, як, напрыклад, шафёр гаспадарча-разліковага прарабскага ўчастка Сямён Шэлест ці вадзіцель гарпо Сяргей Сарока.

## ГАРЭЛКА ЗАСМАКТАЛА. І НЯМА ШАНЦУ ВЫЛЕЧЫЦЦА

Алкагалізм і п'янства – нярэдкая з'ява ў сённяшнім жыцці. Назіраецца такая тэндэнцыя: чым яно горш, тым больш ужываецца спіртнога. Хто шукае ў гарэлцы паратунку ад надзённых праблем і цяжкасцей, хто ўжывае яго так, для задавальнення цела і духу і г. д. Але часам гарэлка засмоктвае чалавека так, што выхад толькі адзін – лячэнне. Так, нядаўна нашым аддзелам быў адпраўлены 41 чалавек, якія злоўжываюць спіртным, на лячэнне ў Крывошынскую аблбальніцу. Але прынялі там толькі 19 чалавек, астатніх вярнулі з-за таго, што няма месцаў.

**С. ЮНЧЫК,**
**начальнік аддзела грамадскай бяспекі і прафілактыкі Івацэвіцкага РАУС.**

*ПАДПІСКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА*

***Шаноўныя чытачы! Калі вы па нейкіх прычынах не змаглі падпісацца на нашу газету і шкадуеце пра гэта, то афарміць падпіску на май і чэрвень можна і сёння ў любым аддзяленні сувязі. Кошт падпіскі застаецца ранейшым: на адзін месяц – 4 тысячы рублёў, на два месяцы – 8 тысяч.***



*УДАКЛАДНЕННЕ*

*У № 22 за 30 сакавіка нашай газеты дапушчана адвольнае (няпоўнае) цытаванне аднаго з абзацаў заметкі „Падпісвайцеся на „Івацэвіцкі веснік", надрукаванай у № 20 райгазеты „Івацэвіцкі веснік". Мы выпраўляем гэту недакладнасць і цытуем абзац поўнасцю: „Заснавальнікі райгазеты – райсавет і райвыканкам, а таксама калектыў райгазеты „Івацэвіцкі веснік" – звяртаюцца да кіраўнікоў працоўных калектываў з просьбай афарміць падпіску на „Івацэвіцкі веснік" за кошт сродкаў працоўных калектываў найбольш малазабяспечаным работнікам", а таксама прыносім свае прабачэнні рэдакцыі газеты „Івацэвіцкі веснік".*

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ: НОВАЕ СУПОЛЬНІЦТВА

**Падзеяй, да якой нашы народы імкнуліся ўсе гады, назваў Прэзідэнт А. Лукашэнка дагавор аб стварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік напярэдадні яго падпісання. Супольніцтва будзе ўяўляць сабой вышэйшую форму інтэграцыі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза і арганічна спалучаецца з дагаворам, падпісаным 29 сакавіка паміж Беларуссю, Расіяй, Казахстанам і Кіргізіяй.**

**Пасля выступленняў перад членамі афіцыйнай дэлегацыі ў Георгіеўскай зале Крамля 2 красавіка прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын падпісалі Дагавор аб утварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік. Затым кіраўнікі дзвюх дзяржаў у суправаджэнні патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія ІІ праз Святыя сені выйшлі на Красны ганак і спусціліся на Саборную плошчу Крамля, дзе яшчэ раз выступілі перад грамадзянамі Беларусі і Расіі, якія сабраліся тут.**

### ФРАКЦЫЯ „ГРАМАДЗЯНСКАЕ ДЗЕЯННЕ" ЛІЧЫЦЬ БЮДЖЭТ НЕРЭАЛЬНЫМ

**Нездавальняючай прызнала работу Вярхоўнага Савета над бюджэтам на 1996 год парламенцкая фракцыя „Грамадзянскае дзеянне". Аб гэтым было заяўлена на праведзенай 1 красавіка прэс-канферэнцыі.**

**Лідэр фракцыі Станіслаў Багданкевіч адзначыў, што ў ранейшым аб'ёме захаваны падатковы цяжар на прамысловасць, вялікія сумы накіраваны на падтрыманне неэфектыўнага АПК за кошт прамысловасці, засталіся пазабюджэтныя фонды, устаноўлены розныя ўмовы для дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў. Гэта, паводле яго слоў, з'явілася вынікам актыўнай дзейнасці і кантралявання амаль палавіны парламента камуністамі і аграрыямі.**

**На прэс-канферэнцыі было сказана, што фракцыя „Грамадзянскае дзеянне" лічыць прыняты бюджэт нерэальным для выканання.**

### НА КАРЫСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ І ЯЕ МІЖНАРОДНАГА АЎТАРЫТЭТУ

**Адной з найстарэйшых грамадскіх арганізацый рэспублікі – Беларускаму таварыству дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі 7 красавіка спаўняецца 70 гадоў. Таварыства вядзе інфармацыйна-азнаямляльную работу сярод замежных грамадзян і тым самым знаходзіць сяброў для Беларусі, знаёміць свет з яе нацыянальнымі традыцыямі, культурай, літаратурай і мастацтвам. Яно здзейсніла шэраг праграм дапамогі ахвярам радыяцыйнага забруджвання.**

### НАЛЁТ НА КВАТЭРУ ЧЭМПІЁНКІ

**Пяцёра злачынцаў у чорных масках учынілі налёт на кватэру пяціразовай чэмпіёнкі свету па фехтаванні Таццяны Самусенка, якая жыве ў Мінску ў раёне праспекта Машэрава.**

**Калі рабаўнікі ўварваліся ў кватэру, былая спартсменка адважылася скокнуць са свайго балкона (другі паверх) на вуліцу. Злачынцы ўцяклі, а Т. Самусенку забрала машына хуткай дапамогі з пераломамі абедзвюх ног і пашкоджаным пазваночнікам.**

### МІЖНАРОДНАЯ НАРАДА ТРАНСПАРТНІКАЎ

**У Баранавічах адбылася міжнародная нарада па пытаннях стварэння дагаворнага транспартнага права для грузавых зносін „Германія-Беларусь-Расія". У ёй бралі ўдзел эксперты Міністэрства шляхоў зносін Расіі, акцыянернага таварыства „Дойчэ Бан АГ", Генеральнай дырэкцыі польскай дзяржаўнай чыгункі, Упраўлення Беларускай чыгункі. Выпрацаван праект дагаворнага транспартнага права „Германія-Беларусь-Расія".**

### „МІНСКАЯ ВЯСНА–96"

**Разам з першымі красавіцкімі днямі ў сталіцу краіны прыйшло па-сапраўднаму вясенняе свята – Міжнародны музычны фестываль „Мінская вясна-96". Ён парадуе аматараў музыкі разнастайнасцю і высокай творчай якасцю канцэртаў, у якіх прымуць удзел, апрача лепшых беларускіх выканаўцаў, госці з Расіі, Германіі, Аўстрыі. „Мінская вясна–96" працягнецца па 19 красавіка.**

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

● ЭКАНАМІЧНЫ ТУПІК

# НАМ ПЕРШ-НАПЕРШ – САМАЛЁТЫ...

**А ЦІ ЗАДУМВАЛІСЯ ВЫ, ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ, ШТО НАШЫЯ ДАЎНІЯ ВЯСЁЛЕНЬКІЯ ПЕСЕНЬКІ НЕСЛІ Ў САБЕ (БАДАЙ – КОЖНАЯ) ВЕЛЬМІ ГЛЫБОКІ СЭНС? ВОСЬ ПРАЧЫТАЙЦЕ БОЛЬШ УВАЖЛІВА ТАКОЕ: „ПЕРВЫМ ДЕЛОМ САМОЛЕТЫ, НУ, А ДЕВУШКИ ПОТОМ...” І ЗУСІМ ГЭТА НЕ БЯСКРЫЎДНА ГУЧЫЦЬ, ЯК МОЖА ЗДАЦЦА...**

У гады славутага перыяду развітога сацыялізму мы не проста ганарыліся сваімі сацыяльнымі заваёвамі, не проста хваліліся і нават не проста фанабэрыліся. Мы насіліся з імі, як дурань з пісанай торбай. І хоць цяпер відавочна, што на донцы той торбы толькі сухая скарынка, тым не менш, забегалі некаторыя з ёй ізноў. Тут трэба і тое прызнаць, што зыркая размалёўка пустой торбы сяго-таго усё яшчэ надта вабіць...

Сутыкнуўся я, паважаныя чытачы, з адной такой заваёвай сацыялізму. Не, не пра быццам бы бясплатнае лячэнне ды адукацыю гаворка пойдзе. Пра хлеб.

„...Хлеб наш надзённы дай нам...” – звяртаемся мы да Бога. Вядома, не толькі хлеба бохан просім, больш тут аб хлебе духоўным просьба. Але і гэты, звычайны, маем на ўвазе.

Пра хлеб мы пісаць навучыліся. Лозунгі адзін другога лепшы. „Хлеб – усяму галава”. Прыгожа. Пераканаўча. Адсюль вынікае, што клопат хлебапякарскі – найгалоўнейшы клопат. І што хлебапёк і касманаўт – па значнасці роўныя. Вось менавіта пра гэта нам і гаварылі.

А што рабілі на самай справе?

Давайце вось параўнаем так – „у нас” і „у іх”, значыць – у праклятых капіталістаў.

У нас ракета аж на Марс заляціць.

У іх ракета не адстане.

У іх – поўнасцю аўтаматызаваныя, перасовачныя хлебапякарні на колах, якія абслугоўваюць (адну) два чалавекі і здольныя накарміць (тая ж адна) ўсе нашыя Івацэвічы.

У нас... У Целяханах працуе хлебапякарня, абсталяванне якой датуецца 1958 (адна тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят восьмым) годам.

Без малога – сорак гадоў...

За гэты час у космас узлятала столькі ракет, колькі боханаў за суткі не выпеча Целяханская хлебапякарня. За гэты час камп'ютэр ад памераў чыгуначнага вагона зменшыўся да велічыні карабка запалак. За гэты час людзі прыручылі (быццам бы) атам. Прыдумалі каляровы тэлевізар. Відэамагнітафон. Мікрахвалявыя печы. У нашай Беларусі паспелі абраць першага прэзідэнта, намаляваць свае грошы, двойчы памяняць сцяг і герб і „забыць” словы гімна. А ў Целяханскай хлебапякарні некалькі вялізных катлоў для замешвання, лента транспарцёра, ды крывы рог мяшальніка як з'явяляліся ўсім абсталяваннем і ўсёй механізацыяй, так і засталіся. Ну, і вядома ж печ. Наколькі яна эфектыўная, можна толькі здагадвацца.

Вось вам і заваёва сацыялізму!

А што, мір жа не бачыць, як мы там хлеб для людзей пячом. А ракеты бачыць! Дык чаго нам галовы задурваць тым, чым нельга пахваліцца і напужаць? Гэтым правілам і кіраваліся тыя, што намі кіравалі. Што спякуць, як спякуць і дзе спякуць тое і з'ядуць!

І пяклі хлеб на гэтай хлебапякарні, і пякуць цяпер. І, шчыра кажучы, добры хлеб, смачны. Дзіву проста даешся: як у такіх умовах, пры такой „тэхналогіі”, у такой старой будыніне могуць пячыся лёгкія, з апетытнай скарыначкай, роўныя, адзін у адзін боханы. Ды проста сама чысціня памяшкання, якое менш за ўсё можна назваць хлебапякарным цэхам, здзіўляе. І міжволі задумаешся – колькі ж намаганняў прыходзіцца ўкладваць жанчынам – усяму калектыву цэха і яго начальніку Софіі Міхайлаўне Галоўчык у сваю справу!

Вядома, пры такім „выкапнёвым” абсталяванні бываюць і прыкрасці. І не збіраюцца знімаць з сябе віны ў такіх выпадках хлебапёкі, хоць іх вінаваціць, згадзіцеся, недарэчней за ўсё.

Каля чатырох з паловай тон хлеба ў суткі выпякае Целяханская хлебапякарня, і пастаўляе яго ў 26 гандлёвых кропак. Раней удвая больш выпякалася хлеба, і не вялікі сакрэт – чаму ён не залежваўся на паліцах. Так, сёння жывёлу хлебам не пакорміш...

Збіраецца стаць на капітальны рамонт хлебапякарня. Хоць, па сутнасці, аб якім рамонце тут можа ісці гаворка?..

Вось бы пасадзіць міністра харчовай прамысловасці на аўтамабіль 1958 года выпуску. Няхай бы пакатаўся на такім! Можа, што б зразумеў. І другім патлумачыў...

Недзе проста жылі і працавалі. Мы – заваёўвалі. Недзе расцілі хлеб – мы змагаліся ў бітве за ўраджай. Недзе вучыліся – мы займаліся барацьбой за веды. А каб не было гэтай бясконцай барацьбы? Каб не было пяцігодак якасці, эфектыўнасці, паскарэння? Каб мы не вышуквалі (па папярэдніх „мудрых” падказках) галоўных напрамкаў, а лічылі галоўным усё, што тычыцца людзей?

Мо б тады не былі самалёты першымі, а сям'я – другой, і мо якасць хлеба стала важней за вышыню ўзлёта ракеты, і адзенне жанчыны набыло значнасць такую, як і скафандр касманаўта?

Мо б тады сам чалавек стаў галоўным у грамадстве, а не бязглуздыя ідэі кшталту: „Дагонім і перагонім”?

Мо б і пякарні мы цяпер мелі, як „там”...

„Вярнуць заваёвы сацыялізму!” – аж пырскі сёння ляцяць з ратоў камуністычных пустабрэхаў.

Бярыце, браткі! Дарма аддадуць вам хлебапякарню, якая нарадзілася пры „окончательной победе социализма”, пякла хлеб пры „развитом социализме”, перажыла перабудову, развал Саюза, і крочыць у рынак.

Ваша заваёва, ленінцы! Ганарыцеся!

**В. ГАПЕЕЎ.**

● ВРЕМЯ, ВЕЧНОСТЬ И МЫ

# Размышления перед Пасхой

*СОВСЕМ немного времени отделяет нас от величайшего в истории всего человечества дня Пасхи, который воистину стал праздником надежды, счастья, любви. Смысл и значение этого события раскрываются нам на страницах Священного Писания – Библии, подаренной людям Самим Богом.*

*Почему праздник Пасхи так дорог каждому человеческому существу маленькой планеты Земля? Потому, что в этот день воскрес из мертвых Сын Божий, Господь и Спаситель наш Иисус Христос.*

*„Пасха” означает „прохождение мимо”. Иногда это понятие созвучно словам „освобождение от наказания”, „помилование”. Впервые упоминание об этом дне мы находим во второй книге Ветхого Завета „Исход”. Эта история уводит нас на три тысячи пятьсот лет вглубь веков. Оставив подаренную Богом землю в долинах реки Иордан, семьдесят евреев во главе с патриархом Иаковом переселились в Египет. Плодородные долины реки Нил, передовая наука, военная мощь и то, что один из двенадцати сыновей Иакова – Иосиф – стал первым лицом после фараона, стало для еврейского народа более важным, чем жизнь с Богом и послушание Его воле. Оставив Бога, народ попал в рабскую зависимость и более четырехсот лет был истребляем и угнетаем египтянами. Бесправие, нищета, непосильные работы, смерть детей, убийства даже новорожденных вынудили израильтян повернуться к Богу и просить о прощении и милости.*

*Небесный Отец, всегда готовый слушать и отвечать ищущим Его, повелел, чтобы все, кто ищет милости и спасения, в ночь с 13 на 14 месяца авив или нисан (апреля) закололи однолетнего ягненка и помазали косяки домов его кровью. Кто не сделает этого, будет истреблен как непокорный воле Всевышнего. Каждый род вел родословие по первородному сыну. Все первенцы непокорных должны были погибнуть. Животное, убитое за грехи человека, проливающее кровь, символически покрывало грехи людей, показывая, что грешник может искупить грех только кровью. Кровь – это наша жизнь. Значит, грех ведет к неминуемой смерти. Евреи поверили этому необычному условию. Убив ягненка, каждая семья помазывала кровью косяки и перекладины дверей своего дома. Мясо жарили на огне и ели с горькими травами, как повелел Бог. Горькие травы означали память о горечи рабства. Мясо, жарящееся на огне, обозначало участь всякого грешника в вечности после его физической смерти.*

*Египтяне же остались глухи к повелению „еврейского” Бога. Они поклонялись своим каменным, золотым богам, сделанными людьми. В ночь с 13 на 14 апреля Ангел-губитель, посланный Богом, прошел по Египту. Суд Божий был страшен. Все непокорные египтяне потеряли в эту страшную ночь первенцев – от сына Фараона до первородного ягненка в хлеву бедняка.*

*Утро 14-го апреля было поистине чудно. Израильтяне покидали Египет с радостью и весельем. Больше не рабы, а свободные, они шли под водительством Самого Бога, который руководил через раба Своего Моисея. Египтяне же встречали первые лучи восходящего солнца затуманенными от слез бессонной ночи глазами, исполненными горя и отчаяния от переживаний – от смерти дорогих, близких людей.*

*Горе обошло евреев, и милость Божия вернула людей к жизни полной смысла и надежды. Пасха – прохождение мимо. Эти события произошли в Ветхом времени Древнего Завета и дошли до нас как история.*

*Что означают эти события для нас? Апостол Павел был человеком ученым и точно знал события прошлого. Встретившись с Иисусом Христом, Апостол „прозрел” духовным зрением и писал в послании к Коринфской церкви 1 Кор. 5:7: „Пасха наша, Христос заклан за нас”. Искупительная жертва ягненка и его кровь были лишь прообразом, тенью будущих событий Нового Завета. За наши грехи умер Сын Божий Иисус Христос, чтобы своей драгоценной кровью искупить нас от смерти, великого и страшного суда Божия. Сам Господь умер за грешников. Он есть Агнец Нового Завета.*

*Утром 14-го апреля около двух миллиардов жителей земли скажут „Христос Воскрес!” и ответят друг другу: „Воистину Воскрес!” Ликуй земля! Вечная жизнь подарена нам в Иисусе Христе! Смерть побеждена, грех не имеет власти над человеком! Христианин – это тот, кто принадлежит Христу, кто следует за Ним, подчинен Его воле, раб Божий. Кто истинно таков, вникает в Священное Писание, познает Волю Божию, отвращается от всякого греха, ожидает пришествия Господня и свободы вечной жизни. Всякий приходящий с молитвой покаяния будет услышан и прощен, очищен Кровью Агнеца Божия от всякого греха.*

*Праздник Воскресения Господа Иисуса Христа – праздник обновления, жизни и весны прощенного и преображенного человечества. Только Бог был в состоянии сделать это чудо, вернув нам мир и покой. Углубляйтесь в Библию, в молитве покаяния, совершая всякое доброе дело, ожидайте Спасителя мира, Господа славы. Не ожесточайте сердец грехом: пьянство, блуд, зависть, сквернословие, пустословие, вражда, гнев, убийства, хищения и тому подобное да будут удалены от вас. Напротив, возрастая в познании Бога, укрепляйтесь любовью Его, милосердием, всякой добродетелью, почтительностью друг ко другу, честно трудясь своими руками. Не воздавайте злом за зло, прощайте, благословляйте, а не проклинайте. С наступающим праздником Святого Воскресения, всех вас, добрые люди!*

***К. ТКАЧЕНКО,***
***проповедник.***

● ПРИРОДА И МЫ

# Весенний нерест

*На период весеннего нереста рыб в 1996 году приказом Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды запрещено всякое рыболовство в водоёмах Республики Беларусь. На территории Брестской области установлены следующие сроки:*

*– на реках с 1 апреля по 30 мая;*

*– на озерах и водохранилищах с 10 апреля по 8 июня;*

*– на озере Белое Дрогичинского района с 1 апреля по 9 июня.*

*Любительский лов рыбы одной поплавочной удочкой на рыболова в период весеннего нереста разрешен только на трёх озерах района – Ивацевичском, Галенчицком и Нехачевском.*

*Запрет на лов рыбы распространяется на первое и последнее числа запретного периода включительно.*

*Дополнительные справки можно получить в районной инспекции по экологии или районном совете Белорусского общества охотников и рыболовов.*

# "ПЕРШАЦВЕТ" — ЧАСОПІС ДЛЯ МАЛАДЫХ

Для кожнага пачынаючага аўтара самае галоўнае – надрукавацца. Убачыць свае першыя, хай у нечым і недасканалыя радкі на паперы, пачуць водгукі аб іх. І калі раней, колькі год таму, такое было, бадай што, немагчыма для большасці маладых літаратараў, то сёння такая магчымасць ёсць.

Прызначэнне часопіса „Першацвет” – торыць дарогу маладым літаратарам, пачынаючым празаікам, паэтам, крытыкам, публіцыстам.

На вялікі жаль, моладзь вельмі мала, або зусім нічога не ведае пра гэты часопіс. І гэта крыўдна, таму што існаванне такога часопіса – справа актуальная і значная для адраджэння беларускай культуры, гісторыі і мыслення. Тыя, хто стаяў ля вытокаў „Першацвета” і хто сёння выдае гэты часопіс, перакананы: у раёнах, у глыбінцы, а таксама ў буйных гарадах багата маладых выкладчыкаў, старшакласнікаў, студэнтаў, што адчулі хараство роднай мовы, спрабуюць пяро. Іх творчыя парывы, памкненні могуць згаснуць, калі яны не будуць мець магчымасці быць пачутымі.

Без шырокага кола чытачоў, без іх падтрымкі не можа існаваць ні адно перыядычнае выданне, тым больш што „Першацвет” не атрымлівае ад урада ніякіх грашовых „падарункаў”. Будзе вельмі крыўдна, немагчыма нават адразу асэнсаваць магчымае закрыццё часопіса, які стаў школай для маладых беларускіх аўтараў.

Да вас слова, маладыя! Выпісвайце, чытайце і друкуйцеся ў часопісе „Першацвет”. Маладое выданне – для маладых. На Беларусі нараджалася і нараджаецца мноства талентаў. Падтрымаем „Першацвет” у яго высакароднай справе па пошуку і выхаванні новых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, крытыкаў і публіцыстаў!

**Адрас рэдакцыі часопіса: 220034 г. Мінск вул.Фрунзе, 5 (Дом літаратара), пакой 301.**

суботні дадатак

СТРАНИЦА ЗАНИМАТЕЛЬНОГО ЧТЕНИЯ

# ДАЙДЖЕСТ

● АСТРОЛОГИЯ

## День на день не приходится

**КОЛЛЕКТИВНЫЕ АСТРОЛОГИЧЕСКИЕ РИТМЫ ДЛЯ ВСЕХ ЗНАКОВ ЗОДИАКА НА АПРЕЛЬ**

*Месяц будет легким и удачным для тех, кто родился 6–9 января, 6–9 марта, 6–9 мая, 8–11 сентября и 8–11 ноября. Трудности и неудачи поджидают рожденных 20–23 марта, 21–24 июня, 22–25 сентября и 21–24 декабря.*

***Плохие дни для деловой и финансовой сферы*** *– 6, 10, 16, 17, 24. В последние три дня перед новолунием (18 апреля, 1 час. 50 мин.) не начинайте более-менее длительных дел и предприятий, поскольку они могут закончиться ничем.*

*Теперь о других периодах.*

***Прекрасное время для романтики, любви и развлечений:*** *8 (после 14), 7 (после 19) – 9 (до 14), 13 (до 15), 16 (после 17), 20 (после 17), 21 (после 13), 23 (до 11), 25 (после 12) – 28, 30 (после 14).*

***Благоприятные периоды для приемов, визитов и семейных встреч:*** *6 (до 16), 7 (после 19) – 9 (до 14), 10 (после 15), 13 (до 15), 16 (после 17), 18–20, 21 (после 13), 23–29 (до 14), 30 (после 14).*

***Хорошее время для контактов с пожилыми людьми и родителями. Личные и семейные отношения могут быть поставлены на прочную основу:*** *11 (после 14), 20 (с 12 до 20), 25 (с 12 до 20).*

***Займитесь воспитанием детей, совместными играми:*** *8 (после 14), 13 (до 15), 23 (до 11), 25 (после 12) – 28.*

***Возрастут интуиция и фантазия, появится вдохновение. Время душевной откровенности:*** *7 (до 11), 15 (после 16), 20 (до 12), 30 (до 9).*

***Займитесь творчеством:*** *7 (после 19) – 9 (до 14), 12(до 10), 13 (до 15), 16 (после 17), 20 (после 17), 21 (после 13), 23 (до 11), 25 (после 12) – 28, 30 (после 14).*

***Возможны внезапные озарения, яркие идеи, планы на будущее окажутся удачными:*** *7 (после 17), 16 (до 11), 20 (после 17), 30 (после 14).*

***Не составляйте планов, не заключайте соглашений, ибо все они „построены на песке":*** *10, 17, 18 (до 17), 24, 25 (после 15).*

***Совершайте визиты к начальству и покровителям:*** *6 (до 16), 7 (после 19) – 9 (до 14), 10 (после 15), 13 (до 15), 18, 19 (до 17), 23 (до 11), 25 (после 12) – 29 (до 14).*

***Ведите деловые переговоры, ищите компромиссы:*** *12 (до 14), 15 (до 15), 21 (до 12), 26 (до 11).*

***Лучшее время для дел с бытовой техникой и электроникой, телефоном, компьютером (покупка, ремонт):*** *7 (после 15), 11 (после 17) – 13, 16 (до 11), 20 (после 17), 30 (после 14).*

***Отличное время для покупки украшений, красивых вещей, одежды, тканей и произведений искусства:*** *8–9 (до 14), 15 (после 16), 16 (после 17), 20 (до 12), 21 (после 13), 30.*

***Одежда и обувь, купленные в эти дни, будут носиться дольше:*** *18–20 (до 13).*

***Не покупайте обувь и одежду – они долго не „протянут":*** *5–7 (до 11), 25 (после 12) – 27.*

***Удачные периоды для приобретения живности и ухода за ней:*** *13 (после 20) – 15, 20 (до 12), 28–29.*

***Подходящее время для коротких поездок (за город):*** *9 (после 16), 14 (после 12), 18, 20 (после 13) – 22, 27 (после 14).*

***Благоприятные дни для отъезда в дальние края, командировку:*** *6 (до 16), 7 (после 12) – 9 (до 14), 10 (после 13), 14 (после 21), 18, 19 (с 9 до 17), 29 (до 14).*

***Можете посетить парикмахера, косметолога, врача, начинать диету:*** *14 (до 14), 23 (до 17), 28–29.*

***Хорошо лечить зубы:*** *23–25 (до 11), 30.*

***Не рекомендуется лечить зубы:*** *9 (после 15) – 11 (до 17), 16–18.*

***Возрастут жизненные силы, у больных может миновать кризис:*** *8 (после 14), 13 (до 15), 23 (до 11), 28 (после 11).*

**И. КИРЮШИН,**
**кандидат физико-математических наук.**
**(„СБ").**

● МИР УВЛЕЧЕНИЙ

## Ещё и вышивает

*Еще больше зауважали в коллективе завода Пермского АО „Авиадвигатель" своего ветерана, орденоносца, станочника высокого уровня Виктора Пестунова после организованной прямо в цехе выставки его художественных произведений.*

*Картины свои Виктор Михайлович создает не красками и карандашом, а мозаикой из шпона различных тонов и... черными нитками. Его пейзажи и портреты, выполненные в изобретенной им оригинальной технике вышивки мельчайшими стежками по белой ткани, на некотором расстоянии производят впечатление исполненных краской. Секреты этой техники пока известны только автору.*

**(„ВЕТТА").**



● ФОТОСЮЖЕТ

## Посмотрите мне в глаза

***Посмотрите мне в глаза,***
***Одарите меня взглядом,***
***Даже если в них слеза,***
***Даже если буря с градом.***

***Даже если очень больно***
***И глаза туманит боль...***
***Ну, взгляните,***
***хоть невольно***
***И ... смените свою роль!***

***Улыбнитесь иль заплачьте,***
***Или даже закричите,***
***Иль свиданье мне назначьте,***
***Но... глаза мне покажите!***

***Одарите меня взглядом,***
***Откровенно посмотрите.***
***Мне совсем не много надо:***
***Расщедритесь – одарите!***

***Ну, давайте, постарайтесь –***
***Поднимите шелк ресниц!***
***Улыбнитесь! Улыбайтесь***
***Черным золотом зениц!***

**Ядвига ЛУЖИНСКАЯ.**
**г. Ивацевичи.**

**Фотоэтюд Валерия МИНЮКА.**

● МУЗЫКАЛЬНЫЙ САЛОН

## Нескоро, видно, боль пройдёт

*Вечно плачущая Татьяна Буланова как всегда в своём репертуаре. Песни ее жалобны до такой степени и в таком количестве, что просто волком выть охота. В новый альбом певицы „Скоро боль пройдёт" включены песни „Странная встреча", „Как бы не так", „Плачу", „Мама", „Не плачь", „Синее море" и другие – одиннадцать „за гранью" слёзных песен. Так что перед прослушиванием данного альбома советуем запастись тазиком и дюжиной носовых платков.*

*Еще один совсем свежий альбом Т. Булановой „Обратный билет" выпущен студией „Союз". Это прекрасный подарок для наших милых женщин. Девять соленых от слез песен придутся им по душе.*

*Практически все композиции (впрочем, как и раньше) похожи друг на друга. Ещё бы, ведь слова и музыку к этому альбому писали всего два человека – давно известные всем и любимые И. Резник и М. Дунаевский.*

## Тучи разводит руками

*Ирина Аллегрова, заботясь о своих поклонниках, в течение всего прошлого года в тверской студии „Салам" записывала новый, четвертый по счету альбом „Я тучи разведу руками", хорошо недавно разрекламированный ОРТ. 14 песен для альбома написал И. Крутой, а стихи И. Резник, Л. Рубальская и другие авторы.*

**(„Частная собственность").**

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## Сон и иммунная система

*Сон напрямую связан с иммунной системой, и недосып грозит уничтожением иммунных клеток крови, утверждают американские медики. Группе здоровяков лишь на одну ночь сократили время сна – и количество клеток, побеждающих вирусную инфекцию, снизилось на 30 процентов. Таким оно и оставалось, пока испытуемые не выспались как следует.*

*Кстати, отсутствие сна влияет и на образное мышление: если после бессонной ночи еще можно ответить на вопросы несложного теста, то написать сочинение практически невозможно.*

*Есть у организма и еще одно сильнодействующее средство – хорошее настроение, способное защитить даже от простуды! Веселясь с друзьями или с головой уходя в любимое дело, вы гарантируете несокрушимость своей иммунной системы на целых два дня. А последствие плохого настроения – ослабление иммунитета на сутки. Исследования показали, что совершенно здоровые люди могут запросто простудиться, выходя на улицу в мрачном расположении духа.*

**(Агентство ПРЕСС-ЗДРАВ).**

● СПОРТИВНЫЙ КУРЬЕР

## Приедет ли Марадонна в Калмыкию на заработки?

*Завоевать путевку в Высшую лигу российского футбола в сезоне 1996 года обязана команда „Уралан" из Элисты. Такую задачу перед командой поставил президент Калмыкии Кирсан Илюмжинов. На этом глова степной республики останавливаться, впрочем, не собирается. Год спустя он намерен пригласить в Калмыкию Диего Марадону. По мнению 33-летнего Илюмжинова, именно экс-капитан аргентинской сборной, который выступит в роли тренера, может обеспечить дальнейшее восхождение „Уралана".*

**(Экстра-Пресс).**

● СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

## Паваротти: новый поворот

*В суде итальянского города Модена всемирно известный тенор Лучано Паваротти и его жена Адуа Верони подписали документ, положивший конец 36 годам их брака. Поводом к разводу стал роман певца с секретаршей Николеттой Мантовани.*

*Паваротти впервые увидел ее три года назад на одном из своих концертов. Через десять дней Николетта стала его личной секретаршей. Ей было тогда 23 года, Паваротти – 57. Жена не могла даже подумать, что отец троих детей может всерьез увлечься девчонкой, чей возраст уступал даже его самой младшей 25-летней дочери. Недавно в одном итальянском журнале была опубликована фотография Паваротти, целующегося с секретаршей на пляже. Фоторепортер „засек" счастливую пару на острове Барбадос.*

*В совместном заявлении, оглашенном после суда, говорится, что они разошлись „из уважения друг к другу и к семье". Подписан также документ о разделе имущества. Это виллы, земельные угодья, квартиры в Нью-Йорке и в Монте-Карло, фирмы. И самое главное – авторские права в дискографии на исполненные тенором оперные арии. Одно недвижимое имущество оценивается в 400–500 миллиардов лир. Поделили, судя по первой информации, все поровну.*

**(„Труд").**

● КРИМИНАЛЬНЫЙ ФОН

## Любовь к кожаной куртке

*19-летняя Алла П. из города Луцка заявила в прокуратуру, что ее изнасиловали двое парней, которых она знала.*

*Сидеть бы им в тюрьме, если бы следователи не докопались до сути. Поняв, что ее ложь разгадана, „потерпевшая" быстро состряпала новое, уже покаянное заявление, в котором написала, что ее никто насильно не принуждал, что отдалась по доброй воле. И объяснила, почему решила отомстить парням. Они, мол, обещали ей подарить за любовь кожаную куртку, но не подарили.*

*И все-таки суд состоялся. Судили незадачливую любительницу подарков – за клевету. И определили три года лишения свободы, правда, с отсрочкой исполнения.*

**(„Труд").**

